

**1 лютага 1863 году падпольны правінцыйны камітэт на чале з Кастусём Каліноўскім абвясціў сябе Часовым правінцыйным урадам Літвы і Беларусі. Так распачалася двухгадовая барацьба беларусаў за свабоду грамадзян і незалежнасць краіны.**

**У 2013 годзе Беларусь адзначае 150-годдзе падзей, якія заклалі ідэйна-гістарычны падмурак новай беларускай дзяржаўнасці.**


# Мужыцкая праўда №1 (8)

Першая рэвалюцыйна-дэмакратычная газета Беларусі.
Выдавалася з ліпеня 1862 па чэрвень 1863 году. Адноўлена ў лютым 2013 у гонар 150 годдзя паўстання.


## Роўнасць! Вольнасць! Незалежнасць!

***Дзецюкі! 150 год гэты зварот не выкарыстоўвалі на старонках беларускіх газетаў. 150 год касінеры не віталі адзін аднога паролем: - «Каго любіш?» - «Беларусь!». Але нічога ў гісторыі не мінае назаўжды. Ідэалы і мары, закладзеныя 150 год таму актуальныя і зараз. А паўтарастагоддзевы юбілей - добрая нагода каб узгадаць пра тыя далёкія часы і паразважаць, якую ролю яны адыгралі ў гісторыі нашай краіны.***

Паўстанне на нашых землях пачалося 1 лютага 1863 году з маніфеста часовага Ўраду Літвы і Беларусі. Гэта не быў бунт, які ўзняўся знянацку. Да рэвалюцыі старанна рыхтаваліся: ужо год беларусаў заклікала да барацьбы «Мужыцкая праўда», на сядзібах і нават ў кляштарах збіралася зброя для будучых касінераў, на ўсёй тэрыторыі Беларусі дзейнічалі мясцовыя падпольныя арганізацыі.

У сакавіку-красавіку пачалося хуткае стварэнне паўстанцкіх аддзелаў, куды пераважна ўступалі шляхта, чыноўнікі, студэнты. Пятую частку ўзброеных змагароў складалі сяляне. Некаторыя вайсковыя аддзелы ўяўлялі сабой даволі значную сілу. Да прыкладу пад камандаю Зыгмунта Серакоўскага на Ковеньшчыне дзейнічала 2-тысячнае злучэнне. Таксама на тэрыторыі Беларусі былі створаны паўстанцкія атрады Валерыя Урублеўскага, Рамуальда Траўгута, Людвіка Нарбута, Ігната Будзіловіча, Цітуса Даўлеўскага, Генрыка Дмахоўскага, Антона Трусава, Тамаша Грыневіча, Людвіка Звяждоўскага, Фелікса Віславуха, Отана Грабніцкага, Юліяна Бакшанскага, Баляслава Кульчыцкага, Лявона Плятэра і іншых адданых ідэалам свабоды патрыётаў.



*Развітанне з інсургентам. Мастак Артур Гроттэр. 1860-я гады*

Напачатку паўстанцы атрымалі некалькі значных перамог. Аддзел Людвіка Звяждоўскага заняў горад Горы-Горкі на ўсходзе Беларусі. На захадзе касінеры авалодалі Пружанамі і Свіслаччу. З баямі прайшло праз Гарадзенскую губерню да Пінскага павету фармаванне Рамана Рагінскага. Амаль усю Лідчыну трымалі пад кантролем ваяры Людвіка Нарбута.

Змаганне ішло не толькі на палях, але і на ідэалагічным фронце. Царскія ўлады пераконвалі сялян, што «паны б'юцца за вяртанне прыгону». «Мужыцкая праўда» тлумачыла сваім чытачам, што скасаванне прыгону, гэта не больш як падманны манёўр, які не прынясе ім жаданай свабоды. Зямля цалкам заставалася ў валоданні памешчыкаў. Сяляне мусілі адпрацоўваць свае права карыстацца надзеламі на іхніх умовах. Гэта часам змушала вяскоўцаў, каб пракарміць свае сем'і, працаваць яшчэ больш чым пры выкананні прыгонных павіннасцяў.

Але шырокага паўстання сялянаў баяліся не толькі царскія ўлады, але і лагер «белых» - прадстаўнікі ўасноўным буйных феадальных родаў, манархісты-кансерватары. Яны не прымалі дэмакратычнай праграмы Каліноўскага, і ў паўстанні разлічвалі не столькі на нязгоду сялянства, колькі на дапамогу замежных краінаў. У іхнім маніфесце, у адрозненні ад Каліноўскага, было толькі адно патрабаванне - аднаўленне Рэчы Паспалітай у межах 1772 году.

Захапіўшы ў свае рукі цэнтр паўстання ў Польшчы, лагер «Белых» здолеў дамагчыся і расфармавання рэвалюцыйнага Часовага ўраду Каліноўскага. Вясной яны стварылі «Аддзел кіравання правінцыямі Літвы» на чале з буйным абшарнікам Якубам Гейштарам. Каліноўскі назваў гэты крок контррэвалюцыйным, але адмовіўся весці барацьбу за палітычны ўплыў у кіраўніцтве. Ён заняў пасаду ваяводскага камісара Гарадзеншчыны і перайшоў да змагання ў палях.

Каля трох месяцаў кіраванне паўстаннем належала польскаму лагеру «белых». За гэты час царскаму войску ўдалося задушыць паўстанне ў Віцебскай і Магілёўскай губернях і разбіць амаль усе атрады касінераў на Меншчыне. Жорсткія рэпрэсіі змушалі шматлікіх буйных землеўладальнікаў адмаўляцца ад падтрымкі ідэяў рэвалюцыі.

Няскоранымі засталася толькі Гарадзеньшчына і частка Берасцейшчыны. Там пры шырокай падтрымцы сялянства Кастусю Каліноўскаму ўдавалася ўдала сумяшчаць вайсковую і партызанкую тактыку вядзення баёў. На пачатку лета кіраўніцтва паўстаннем зноў перайшло да лагеру «чырвоных». На той час дапамогі ўжо чакаць не даводзілася ні ад Польшчы, ні ад якіх іншых краін. Беларускія касінеры засталіся самнасам з бязмерна вялікай царскай арміяй, якая падцягнула ў Беларусь свае шматлікія вайсковыя рэзервы.

Але Каліноўскі ўпарта імкнуўся надаць паўстанню новае жыццё. Да пачатку 1864 году працягваліся сутычкі касінераў з карнымі атрадамі генерал-губернатара Мураўёва, які за гэтыя два гады паспеў вызначыцца нечалавечай жорсткасцю ў адносінах да паўстанцаў і цывільнага насельніцтва краю. Канцом паўстання можна лічыць арышт Кастуся Каліноўскага і яго пакаранне смерцю 22 сакавіка 1864 году.



*Смерць Людвіка Нарбута каля Дубічаў. Літаграфія паводле мал. Міхала Андрыёлі. 1864-65 гг.*

Страты беларусаў падчас паўстання склалі блізу 70 тысяч чалавек. Толькі пакараных ваенна-палявымі судамі і без суду было 18,5 тысяч, 853 чалавекі пайшлі на катаргу, каля 12 тысяч - у высылку і арыштанцкія роты.

Але менавіта тады для беларускага народу надыйшоў гістарычны час адказаць на пытанне - хто мы? Як мы хочам жыць і кім хочам звацца. Гучны адказ на гэтае пытанне даў Кастусь Каліноўскі і тысячы ягоных паплечнікаў. Той адказ захлынуўся кроўю ў іх горле, але гэты крык застаўся рэхам у стагоддзях - у нашай гісторыі і ў душы кожнага беларуса.

**19 стагоддзе было эпохай самавызначэння народаў, адыходу ад саслоўнага грамадства і фармавання нацыянальных дзяржаваў. Менавіта тады на мапе Еўропы з'явіліся назвы большасці сучасных краінаў. Беларусы ў той час не мелі ўласнай дзяржавы. Сама назва Беларусь толькі пачала ўжывацца ў дачыненні да гэтых земель, адрозніваючы нас ад іншых народаў былога ВКЛ - украінцаў, жамойтаў (летувісаў).**

**Рэвалюцыя пад кіраўніцтвам Каліноўскага - гэта першая спроба змагання за незалежнасць ужо беларусаў, як цэласнай і аднароднай нацыі. У адрозненні ад ранейшых саслоўных паўстанняў (шляхецкіх 1794 і 1830-х гадоў за аднаўленне Вялікай Літвы і Рэчы Паспалітай, альбо сялянскіх бунтаў) - у рэвалюцыі 1863-64 г. на адным баку стаялі і шляхціцы, і мяшчане, і прыгонныя.**

**Кастусю Каліноўскаму ўдалося спарадзіць агульнае бачанне новай беларускай дзяржавы, незалежнай, і з роўнымі па статусу, вольнымі грамадзянамі. На стагоддзі гэты ідэал стаў марай і мэтай для новых і новых пакаленняў беларускіх патрыётаў.**

**Расейскія імперскія ўлады ў першай палове 19 ст. актыўна навязвалі найменне беларус у дачыненні да праваслаўнага (пераведзенага з уніяцтва) сялянскага насельніцтва краю. Яны разлічвалі стварыць «беларускую» альтэрнатыву «ліцвінскаму» самаўспрыманню народу колішняга ВКЛ. Паўстанне Каліноўскага стала сапраўдным шокам для ідэолагаў імперыі. Выявілася, што і самавызначаючыся як Беларусы, народ гэтай краіны ўсё адно ўпарта імкнецца да незалежнасці і вызвалення ад «брацкіх абдымкаў».**

**Пасля задушэння паўстання назва Беларусь была забаронена, ўжыванне мовы мясцовага насельніцтва жорстка праследавалася. Вялося актыўнае перасяленне расейскага сялянства на абсягі ўжо «Паўночна-заходняга краю». Аднак імкненне народу да волі і незалежнасці нікуды не знікла. Яно захавалася ў генах «тутэйшых» да больш зручнага гістарычнага моманту. Менавіта яно заўжды падказвала беларусам, дзе - няхай і забароненае - сваё, а дзе - няхай і навязваемае - чужое.**

# Лёс калоніі

***Рэвалюцыі ніколі не пачынаюцца знянацку. Ім папярэднічаюць гады, магчыма дзесяцігоддзі маўклівага трывання крыўды, знявагі, рабавання. У сярэдзіне XIX ст. шмат хто разумеў, што чарговай рэвалюцыі не пазбегнуць - яе чакалі ўсе. У перамогу верылі ўжо значна менш людзей, але зрабіць іншы выбар для сумленнага чалавека было проста немагчыма.***

Пасля задушэння паўстання 1830-х царскія ўлады вялі на нашай тэрыторыі жорсткую каланіяльную палітыку. Пры расейскім урадзе быў створаны адмысловы Камітэт па справах заходніх губерняў, мэтаю якога стала поўная русіфікацыя краю. Улады канфіскоўвалі маёнткі, пазбаўлялі паўстанцаў дваранскіх правоў - шляхецтва адабралі ў 10 тысяч нашых суайчыннікаў. Далучаныя да імперыі абшары хутка засяляліся расейскімі дваранамі і чыноўнікамі. Праводзілася масавая чыстка дзяржаўных установаў, судоў, органаў асветы ад службоўцаў мясцовага паходжання. На плячах гараджанаў і сялянства ляжаў велізарны цяжар падаткаў і павіннасцяў.

Было скасаванае дзеянне мясцовых законаў, перадусім, Статуту 1588 году. Новыя ж законы ніяк не вызначаліся сваёй цывілізаванасцю. Так з 1837 па 1867 год асоба нават шляхецкага стану магла вольна перамяшчацца толькі ў межах сваёй губерні, а каб выехаць далей, трэба было мець адмысловы дазвол. Для шляхты гэта сталася ніколі раней не бачаным дзікунствам. Роўна як для сялянства поўным шокам была новая павіннасць - рэкрукцыя набору. Вярталіся часы прыгону і безкантрольнага свавольства памешчыкаў.

На тэрыторыі колішняга ВКЛ былі зачыненыя ўсе вышэйшыя навучальныя ўстановы: Полацкая акадэмія і Віленскі ўніверсітэт. Справаводства і навучанне было пераведзена на расейскую мову. Пісаць і выдаваць творы на беларускай мове было забаронена. Культура былога Вялікага княства не магла пагадзіцца са сваім правінцыйным статусам ды занядбаннем і перажывала страшэнны занепад.

На ўсход вывозіліся і беларускія культурныя скарбы - сотні тамоў Літоўскай Метрыкі, кнігазбор Віленскага ўніверсітэта, і Полацкай акадэміі. У бібліятэку Пецярбургу трапілі 6274 тамы, - «все редкие и роскошные издания, коих она не имеет, и, следовательно, могущие служить её украшением». Наўздагон кнігам ў імперскую акадэмію мастацтваў павезлі і ўнікальныя калекцыі беларускіх твораў мастацтва, зборы карцінных галерэй, шэдэўры з мясцовых палацаў і сядзібаў. Дагэтуль у Беларусі налічваюцца адзінкі арыгінальных скарынаўскіх стадрукаў, якіх у расійскіх бібліятэках больш за 60. Там жа, на ўсходзе, па музейных калекцыях вандруе сама меней сотня слуцкіх паясоў, хаця на іх радзіме засталіся толькі фрагменты.

Узмацніўся наступ і на ўніяцкую царкву. Вернікі гэтай канфесіі на той час складалі тры чвэрці беларускага насельніцтва. Аднак па загаду цара ураз былі зачынены ды разагнаны больш за сорак базыліянскіх кляштароў. Адным розчыркам пяра насельнікі цэлага краю раптам «вернулись в лоно прародительской веры, дабы пребывать отныне в послушании Святейшего Правительствующего Всеросийского Сенода». Наступ ішоў не толькі на людзей, але і на самі храмы. Сотні помнікаў архітэктуры былі знішчаны ці перабудаваны. Часам, асобнымі будынкамі не абмяжоўвалася. Так сярэднявечнае Берасце было знішчана цалкам, а насельніцтва пераселена за дзве вярсты ў роўнае поле - дзеля таго, каб на гэтым месцы было магчыма збудаваць вайсковую фартэцыю на новых межах імперыі.



Віленскі губернатар Мураўёў тагачасная карыкатура

Без перабольшання гэты перыяд можна назваць самым стратным на працягу ўсёй гісторыі Беларусі. Колькі дасягнутага было знішчана і разрабавана, колькі змарнавалася нерэалізаваных магчымасцяў. Яшчэ больш стратнымі сталіся гады пасля задушэння паўстання. Патапіўшы чарговае змаганне ў крыві, імперскі ўрад яшчэ больш узмацніў ціск на ўсялякую праяву незалежнасці і беларускасці. Але не гледзячы на ўсё згубленае беларусам удалося прайсці праз гэты час і захаваць галоўнае - свой гонар, самапавагу і прагу да волі.

**Польскія рэвалюцыйныя колы, абвесціўшы сябе Польскім нацыянальным урадам у 1863 годзе, разлічвалі адрадзіць Рэч Паспалітую як польскую дзяржаву. У рэвалюцыйнае кіраўніцтва ўваходзілі ў асноўным прадстаўнікі буйных феадальных сем'яў. У паўстанні яны разлічвалі больш на палітычны ціск і дыпламатычную дапамогу іншых краінаў. Сялянскае пытанне ж наогул не разглядалася Варшаўскім камітэтам.**

**Аднак на Беларусі мэты і шляхі інсургентаў былі іншымі. Кастусь Каліноўскі, які ўзначальваў Літоўскі правінцыйны камітэт, быў заўзятым прыхільнікам фракцыі чырвоных (рэвалюцыянер-дэмакратаў). Яны, у адрозненні ад белых (манархістаў-кансерватараў), адстойвалі персанальныя грамадзянскія свабоды і выступалі за нацыянальнае самавызначэнне народаў былой Рэчы Паспалітай.**

**Прынцыпы Каліноўскага не падабаліся варшаўскаму кіраўніцтву паўстання, і 27 лютага 1863-га яны дамагліся парадачы кіравання паўстаннем віленскаму камітэту «белых». Аднак пасля капітуляцыі большасці буйных феадалаў у выніку царскіх рэпрэсій, праз 4 месяцы Каліноўскі быў вернуты ў склад Віленскага камітэта, а 31 ліпеня 1863 ізноў узначаліў яго.**

**У Кастуся Каліноўскага не было жадання здавацца і адступаць. На сваёй зямлі і за сваю зямлю ён змагаўся да апошняга. Ён не пакінуў адданых яму людзей нават калі сілы касінераў пачалі таяць і паўстанне мусіла перайсці да партызанскай барацьбы. Ад мары пра вольную Беларусь ён не адступіўся і перад смерцю - ў ноч перад павешаннем Кастусь Каліноўскі пісаў ліст да свайго народу, дзе заклікаў не спыняць змаганне за волю Радзімы.**

# Шляхамі касінераў

***Берасцейшчына налічвае не адзін дзясятак мясцінаў, звязаных з падзеямі 1863-64 гадоў. Часам яны адзначаны капліцамі і мемарыяльнымі калонамі, часцей - сціпылмі мемарыяльнымі знакамі. Дзе-нідзе іх паспелі ўсталяваць ў перыяд адраджэння напачатку 90-х, альбо гэта здолелі зрабіць высілкамі мясцовых дэмакратычных актывістаў ужо ў больш познія часы. Але гледзячы на большасць з іх і не скажаш, што гэтыя палі, фальваркі ды капліцы хаваюць у сабе гісторыю паўстання.***

Самымі старымі помнікамі касінерам, што захаваліся, можна назваць мемарыяльныя калоны ў вёсках Магілёўцы і Палонск. Яны размешчаны на адлегласці ў 14 км. адна ад адной і вельмі падобныя па форме. Праўда, на іх не захавалася надпісаў ці іншых сведчанняў, у гонар чаго яны былі збудаваны. А таму мясцовыя легенды і некаторыя краязнаўчыя крыніцы часам прыпісваюць іх да іншых гістарычных перыядаў. Так калону ў вёсцы Палонцы часам звязваюць з легендай пра мясцовага рыцара і Грунвальдскую бітву. Але з улікам храналагічнага аналізу збудавання гэта версія падаецца сумнеўнай.



Калонна ў в. Мгілёўцы Магіла паўстанцаў

Месца схову Р. Траўгуту. Заказель

Ёсць меркаванні, што калона ў в. Магілёўцы была збудавана з нагоды прыняцця Канстытуцыі Рэчы Паспалітай 3 траўня 1791. І гэта ўжо значна бліжэй да рэальнага ўзросту мемарыяла, які па стылістыцы і выкарыстаным тэхналогіям датуецца 18-19 стагоддзем.

Не супярэчыць гэта версія і паўстанцкім легендам. Адкрыта хаваць і ставіць помнікі інсургентам было на той час немагчыма. Таму мясцовыя жыхары, што з павагай ставіліся да паўстанцаў, маглі выкарыстаць ужо існуючы мемарыял. Тым больш што культавыя месцы часоў Рэчы Паспалітай па духу не пярэчылі ідэалам касінераў. Мясцовыя наўрад бы сталі неяк абазначаць яго як магілу, але ведаць пра пахаванне мусіў кожны. Падзеі 1863-64-х гадоў у любым выпадку больш значна адбіліся ў людской свядомасці, чым прыняцце мала зразумелай сялянам Канстытуцыі, што дзейнічала меньш за 4 гады. А таму народная памяць з часам магла пакінуць гэты помнік выключна паўстанцам.

Больш падрабязна гісторыя памятае капліцу ля сядзібы Ажэшкаў ў Заказелі Драгічынскага раёну. Там пад час паўстання хаваўся адзін з яго кіраўнікоў Рамуальд Траўгут.

У астатнім расейскія ўлады добра паклапаціліся пра тое, каб фізічных звестак пра паўстанне Каліноўскага на беларускай зямлі не засталося. Рэдкія падпісаныя магілы касінераў на могілках ці ў сямейных склепах у абыход царскім забаронам - вось тое, што дайшло да нас з тых часоў. Сам Кастусь Каліноўскі пасля пакарання быў пахаваны таксама таемна, паводле легендаў, дзесьці на замкавай гары ў Вільні.

Наступным разам помнікі паўстанцам пачалі ставіць ў 20-30-х гадах 20-га стагоддзя. Тады людская памяць яшчэ захоўвала звесткі пра месцы баёў і пахаванняў. Сярод захаваўшагася з таго часу - помнік ля касцёлу ў в. Дамачава Берасцейскага раёну, капліца ў в. Калпакі Баранавіцкага раёну, крыж у Косаве на магіле трох паўстанцаў, - вось, бадай што ўсё, што захавалася на Берасцейшчыне з тых часоў.

Помнік ля в. Ласасін усталяваны замест расстралянага з верталётаў

Помнік на месцы бою каля вёскі Ласасін Пружанскага раёну можна смела назваць сімвалам усіх ідэалагічных перыпетый дваццатага стагоддзя. Пастаўлены пры палякаў у 1933 годзе помнік быў зруйнаваны саветамі. Але за сваю справу камуністы ўзяліся не надта ахвотна - сам помнік захаваўся. У 1989 годзе мясцовыя актывісты яго знайшлі, адрэстаўравалі і паставілі абеліск на новы пастамент.

Аднак у 1998 годзе помнік быў расстраляны з верталётаў, падчас вучэнняў беларускай авіяцыі. Вайскоўцы заявілі пра выпадковасць гэтага здарэння, маўляў, помнік знаходзіўся на тэрыторыі палігону. Ці была зламанерная тая «памылка» дагэтуль нікому не вядома. Аднак у 2000 годзе мясцовыя актывісты здолелі аднавіць помнік з новага граніту на месцы знішчанага. І гэта быў бадай што адзіны выпадак пасля пачатку 90-х, калі ўлады ўжо новай Беларусі пагадзіліся на ўсталяванне хоць-якога мемарыялу на месцах звязаных з паўстаннем.

Дэмакратычнай супольнасцю Беларусі 2013 год абвешчаны годам паўстання Каліноўскага. Будзем спадзявацца, што ў выніку павялічыцца колькасць і палепшыцца стан мясцінаў, дзе можна аддаць даніну памяці ўдзельнікам таго далёкага, але ўсё яшчэ не скончанага змагання.




Наклад: 299 асобнікаў. Надрукавана на ксераксе.
Выдадзена 29.01.2013 г. Берасце.
Кантакты рэдакцыі:
Віктар Клімус МТС: (029) 227 52 12
Life: (025) 513 19 20
Павел Дайлід: (029) 522 82 30

Больш інфармацыі шукайце тут:
vk.com/grunt_brest
reha.of.by